*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета. (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ **10(66)** ◈ 11 сакавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## По азіяцкаму ці еўрапейскаму шляху рушыць?

Стар. 2.

## Аль-Кітаб гучыць па-беларуску.

Стар. 4.

## Знайсці нацыянальны граматычны кансенсус...толькі цераз літару «Э».

Стар. 3–4.



Вучаніца Рэкцянскай пачатковай школы Жлобінскага раёна Аня Шайдакова — выдатніца беларускай мовы. «Пяцёркі», якія Аня атрымала ў перадсвяточныя сакавіцкія дні,— добры падарунак дзяўчынкі сваёй настаўніцы Зінаідзе Адамаўне Марчанка.
На здымку: Аня ШАЙДАКОВА.

Фота М. ХАМЦА.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**АБВАСТРЫЛАСЯ СУПРАЦЬСТАЯННЕ ПАЛІТЫЧНЫХ СІЛ У РЭСПУБЛІЦЫ. НАРОДНЫ ФРОНТ У СУВЯЗІ З РЭФЕРЭНДУМАМ АБ ДАТЭРМІНОВЫХ ВЫБАРАХ УЗМАЦНІЎ КРЫТЫКУ ПАРЛАМЕНТА І ЎРАДА.** Былой партнаменклатуры, па словах З. Пазьняка, не трэба ні нацыянальная валюта, ні войска, ні рыначная эканоміка, ні культура. І ўсе нашы сённяшнія беды вынікаюць з няведання ўладамі абстаноўкі або нават з іх здрады нацыянальным інтарэсам. Выйсце прапануецца адно — нечарговыя выбары, якія могуць адкрыць шлях да рэформ. Якіх? Не гаворыцца...

***ВЫСТУПІЛІ З ЗАЯВАЙ З НАГОДЫ РЭФЕРЭНДУМУ ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА І САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ. ПЕРАЛІЧЫЎШЫ ЎСЁ, ШТО ЗРОБЛЕНА ІМІ АПОШНІМ ЧАСАМ, ЯНЫ ПРЫХОДЗЯЦЬ ДА ВЫВАДУ: НЕ ТАКОЕ ЎЖО І ДРЭННАЕ Ў НАС СТАНОВІШЧА.*** *А каб не пагоршыць яго, трэба не змагацца за ўладу, а ўмацоўваць яе, імкнуцца да стабільнасці. Аргументы прыведзены важкія, а ўсё ж незразумела: чаму засталася без адказу крытыка апазіцыі — хоць бы аб нацыянальнай валюце, войску, рыначнай эканоміцы, культуры?..*

**УПЕРШЫНЮ ЗА ПАСЛЯВАЕННУЮ ГІСТОРЫЮ БЕЛАРУСІ ВЫСОКАПРАСВЯШЧЭННЫ МІКАЛАЙ, МІТРАПАЛІТ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ЦАРКВЫ, ЯКІ ПРЫБЫЎ ДА НАС З КАНАДЫ, АДСЛУЖЫЎ У ПАМЯШКАННІ МЕНСКАЙ ЕПАРХІІ ЛІТУРГІЮ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ.**

*САВЕТ РУХУ за дэмакратычныя рэформы — Дэмакратычная Беларусь, статут якога быў нядаўна зарэгістраваны ў Мінюсце рэспублікі, выступіў са зваротам. У ім крытыкуюцца і ўлады за нежаданне праводзіць рэформы, і БНФ за несвоечасовы рэферэндум, і нацыянал-рэфармізм за імкненне ад ізаляцыі беларусаў. Савет Руху прапануе стварыць «круглы стол», які б дзейнічаў пастаянна і ў якім бы прынялі ўдзел усе палітычныя сілы.*

***САВЕТ ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ ВЫКАЗАЎ ПРАТЭСТ У СУВЯЗІ З МЕРАМІ, ЯКІЯ ПРЫНЯЎ БЕЗ ШЫРОКАГА АБМЕРКАВАННЯ ЎРАД ПА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА, І ЗАПАТРАБАВАЎ ІХ ПАЎТОРНАГА РАЗГЛЯДУ.***

**ПА ЗАПРАШЭННЮ** народных выбраннікаў Віцебска тут мяркуецца правесці 17 сакавіка з'езд народных дэпутатаў былога СССР.

# «На вернасць Рэспубліцы Беларусь»

*Пакуль гэтыя радкі ўбачаць свет, палітычная сітуацыя вакол Узброеных Сіл былога СССР павінна вырашыцца.*

А на Беларусі тым часам прымаюць прысягу. Што ў слове гэтым — прысяга? Адказнасць? Якая? Маральная, прававая... «...Паступаючы на вайсковую службу, прысягаю на вернасць Рэспубліцы Беларусь і яе народу».

Клянуцца пакуль што адны салдаты. З тых, што прыйшлі ў войска напрыканцы лістапада — на пачатку снежня. Як і Беларусь цяпер — маладая дзяржава, так і абаронцы яе — маладыя, юныя, тэрмін сваёй службы вызначаюць месяцам — двума.

У некаторых вайсковых злучэннях Беларускай ваеннай акругі тэкст прысягі ўчарашнія дапрызыўнікі чыталі на роднай мове. Яно і зразумела — леташні асенні прызыў склаўся цалкам з беларусаў ды ўраджэнцаў Беларусі — тых, хто цяпер жыве ў рэспубліцы. Незразумела іншае: усё ж такі ў большасці воінскіх калектываў прысягалі па-расійску, пераклаўшы тэкст «Вайсковай Прысягі» з беларускага арыгінала, зацверджанага Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Цікава, а ці задумаліся вайскоўцы над тым, хто ж зацвярджаў расійскі тэкст прысягі? Гэтак жа можна было і пераблытаць, ды клятву даць Расіі, ці СНД, ці яшчэ каму-небудзь.

Хаця што тут незразумела?! З усяго афіцэрскага корпуса БВА толькі недзе пятую частку складаюць беларусы. Няма ў акрузе сярод генералаў — камандзіраў дывізій ніводнага беларуса. Затое за межамі Рэспублікі Беларусь служыць каля 40 тысяч афіцэраў-беларусаў ці ўраджэнцаў Беларусі, якія прызываліся ў войска з нашай роднай старонкі. Канешне ж, відаць, многія з іх забыліся на родную мову. Але пачуццё нацыянальнай свядомасці, жаданне служыць свайму народу падштурхнула 3226 нашых землякоў напісаць рапарты з просьбай даць ім магчымасць служыць на Беларусі.

Прыняцце «Вайсковай Прысягі» маладымі салдатамі паставіла калектывы злучэнняў БВА ў даволі няёмкую сітуацыю. Афіцэры ж падначалены іншай прысязе — колішняга СССР... Як загадваць, як выконваць загады, а здарыцца што, то як і за каго ісці ў бой?..

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## Дзякуючы энтузіястам

Няпросты шлях адраджэння беларускай мовы і культуры. Колькі перашкод, непаразумення, абыякавасці з боку тых, хто яшчэ не далучыўся да святой справы, для каго яна яшчэ нейкая другасная, абстрактная, а часам нават «нацыяналістычная», «злачынная». І вельмі радуе, што, дзякуючы суполкам ТБМ, прыхільнікаў роднай мовы ўсё большае і большае. Адчуванне сваёй неабходнасці рухае радай Таварыства беларускай мовы Савецкага раёна Менска, якой кіруе кандыдат гістарычных навук, народны дэпутат РБ Трусаў Алег Анатольевіч.

За два гады існавання ТБМ радай Савецкага раёна ажыццёўлена шмат цікавых задумак. І ў першую чаргу — стварэнне нядзельнага беларускамоўнага ліцэя. Ідэя стварэння ліцэя належыць Алегу Трусаву і пад яго кіраўніцтвам ажыццёўлена. Нямала намаганняў прыйшлося прыкласці, былі і моманты адчаю, калі здавалася, што не перамагчы магутных бюракратычных рагацін, але заўсёды знаходзіліся людзі, якія разумелі і працягвалі руку дапамогі. Гэта ў першую чаргу чулыя людзі з Міністэрства адукацыі, як Яўген Бандарэнка, Аляксандр Казулін, Лілія Анціна і іншыя. Зараз ліцэй працуе пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры. У ім выкладаюць Вінцук Вячорка, Анатоль Сідарэвіч, Аляксей Рагуля, Павел Лойка, Вячаслаў Ракіцкі, Павел Царашковіч і іншыя, якія не шкадуюць сіл і свайго часу на неадкладную справу — навучанне і выхаванне моладзі, абуджэнне яе нацыянальнай свядомасці.

На тэрыторыі Савецкага раёна працуе Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія. Але ў гэтай навучальнай установе доўгі час нічога беларускага не было, пакуль не ўзяўся за справу дацэнт Шастаковіч Анатоль Васільевіч, член рады, выкладчык філасофіі і этыкі на беларускай мове. Да яго далучыліся калегі-паплечнікі: Сухая Тамара Аляксандраўна, Трацякевіч Васіль Якаўлевіч — выкладчыкі матэматыкі, Самайлюкевіч Уладзімір Аляксандравіч — загадчык кафедры педдысцыплін. Так утварылася пры Політэхнічнай акадэміі Таварыства беларускай мовы.

Сябры Таварыства склалі руска-беларускі матэматычны слоўнік (калектыў аўтараў Гудзень Н. Я., Траццякевіч В. Я., Еўдакіменка Р. М.), «Руска-беларускі фізічны слоўнік» на 20000 слоў (пад рэд. Самайлюкевіча У. А.), «Архітэктурна-будаўнічая тэрміналогія» (пад рэдакцыяй Кожара В. І.). Складаюцца канспекты і планы заняткаў па матэматыцы для выкладання па-беларуску. Стаіць праблема стварэння кафедры беларускай мовы. Таварыства спадзяецца, што кіраўніцтва Політэхнічнай акадэміі ўважліва паставіцца да гэтага пытання. На жаль, як паведамляюць сябры Таварыства, з боку рэктарата

*У суполках ТБМ*

яны не заўсёды знаходзяць падтрымку і паразуменне.

Анатоль Васільевіч Шастаковіч лічыць, што справа адраджэння мовы ішла б больш спорна, каб на роднай мове загаварыў увесь парламент, дзяржаўныя ўстановы, каб яна ўвайшла ў сферу абслугоўвання. І тады б само жыццё прымусіла кожнага ўзяцца за авалоданне мовай. Руская ж мова таксама некалі ўваходзіла зверху. І пануе. А родная мова прыбіта, затаптана. Ці не прыйшла пара ўшанаваць яе, як маці, за слёзы, пакуты, за песні ля дзіцячай калыскі, за чуласць і спагаду?

Пералік добрых спраў рады ТБМ Савецкага раёна будзе няпоўным, калі не ўспомніць пра цудоўнае масавае свята на Цнянскім вадасховішчы, прысвечанае 500-годдзю Францыска Скарыны, навагодні дзіцячы ранішнік на беларускай мове, арганізаваны радай у сярэдняй школе № 130, падарожжа настаўнікаў у Жыровічы, выступы сяброў рады ў друку, конкурс па гісторыі Радзімы, праведзены газетай «Піянер Беларусі» пад кіраўніцтвам Алены Трусавай. Шмат намаганняў прыкладалі ў гэтых справах сябры рады: загадчыца аддзела культуры газеты «Голас Радзімы» Таццяна Антонава, загадчыца РМК Савецкага райана Вінакурава Ніна, настаўніца беларускай мовы сярэдняй школы № 20 Адзярыха Людміла, настаўніца сярэдняй школы № 66 Боган Таццяна, выкладчык БДУ Вячаслаў Каладзінскі, бібліятэкар МРТІ Коваль Ірына і іншыя.

Ала КАЖЭРА.

*Беларускае Адраджэнне ў святле друку*

## Кожнаму свой гуж

У «Народнай газеце» пад рубрыкай «Я хачу вам сказаць...» надрукаваны артыкул прафесара кафедры інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі Беларускага эканамічнага універсітэта Мікалая Савіцкага «Ці толькі на бульбу мы багатыя?». У ім гаворыцца пра хібы нашай эканомікі, якія чамусьці ўсе абыходзяць увагай.

Пачаць хоць бы з савецкай адукацыі — яна атрымана намі ў абыход усіх здабыткаў навукова-грамадскай думкі нашых продкаў і сучаснага цывілізаванага свету. Адсюль нашы многія перакосы ў эканоміцы: спачатку вырошчваем ураджай, затым яго знішчаем, добрыя землі запускаем, а дрэнныя меліярыруем і г. д. А ўзяць нашу нацыянальную свядомасць. У японцаў і немцаў на гэтым фактары трымаюцца ўсе поспехі. А ў нас нізкі яе ўзровень вядзе ў бездань самазнішчэння. Таму аўтар робіць вывад: урад павінен весці свой народ па шляху нацыянальнага выратавання.

Часта можна пачуць і спасылкі на нахабства мафіі. Але ж цяжка паверыць, што ўрад не мае да яе дачынення. Чым вышэйшая пасада, тым большая ўласнасць і, зразумела, сувязь з мафіяй. Урад не наводзіць парадку ў гандлі сыравінай і яе спажыванні, у пытаннях прыватызацыі, развіцця культуры. «Што гэта за ўрад, газета якога выходзіць не на дзяржаўнай мове свайго народа? — піша М. Савіцкі і дадае: — Пытанняў можна ставіць шмат. Як кажуць, лягчэй ставіць пытанні, чым іх вырашаць. Згодзен. Але ж кожнаму свой гуж. А калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што не дужы».

А. С.

## Госць рэдакцыі

Нядаўна наведаў рэдакцыю сакратар часопіса «Полацак» (Кліўленд, ЗША) спадар Міхась Белямук. Яго жыццёвыя дарогі досыць тыповыя для паўночнаамерыканскай эміграцыі. **Нарадзіўся Міхась Белямук у 1924 годзе ў вёсцы Высокае, што на Брэстчыне. У час Другой сусветнай вайны трапіў у Нарвегію, адтуль — у Нямеччыну, а пасля — у Злучаныя Штаты Амерыкі. Пасяліўся ў г. Кліўлендзе (штат Агаё). Каб зарабіць на жыццё, даводзілася цяжка працаваць на фабрыках і заводах. Нямала прыклаў намаганняў, каб авалодаць англійскай мовай. Усё жыццё цікавіўся гісторыяй Беларусі, гісторыяй Полаччыны, Тураўшчыны, Вялікага княства Літоўскага. Вучыўся на гістарычным факультэце ў г. Калумбусе.**

**У 60-х гадах завязаў актыўную перапіску з вядучымі гісторыкамі Беларусі, у тым ліку з М. Ермаловічам, Г. Штыхавым. У выніку і ў яго з'явіліся навуковыя працы і артыкулы па гісторыі Беларусі. Сярод іх — «Вытокі беларускіх пячаткаў», «Эмблема на шчыце герба «Пагоня» і іншыя.**

**Два гады назад Міхась Белямук стаў працаваць адказным сакратаром незалежнага часопіса «Полацак», які выдаецца на сродкі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы імя Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе.**

**У гутарцы з карэспандэнтам «Нашага слова» спадар Белямук спыніўся на некаторых недахопах часопіса «Полацак», у прыватнасці гаварыў пра друкарскія памылкі і няякасныя фотаздымкі, вузкае кола эміграцыйных аўтараў, два віды правапісу. Разам з тым ён паведаміў, што сёлета плануецца выдаць да часопіса «Полацак» дадатак «Зборнік гістарычных матэрыялаў» аб'ёмам каля 250 старонак. Спадар Белямук таксама паведаміў, што ён упаўнаважаны губернатарам штата Агаё Джорджам Вайновічам весці перамовы аб наладжванні эканамічных сувязей і першыя крокі ў гэтым накірунку ўжо зроблены.**

**На заканчэнне гутаркі Міхась Белямук пажадаў творчаму калектыву «Нашага слова» і яго чытачам поспехаў на ніве Адраджэння.**

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Нашы інтэрв'ю*

***У рэдакцыю пачалі тэлефанаваць рашучыя маладыя чытачы:***

***— Часопіс «Бярозку» бачылі? А вы чаго марудзіце? Бярыце прыклад!***

***Бачылі, чыталі. Сапраўды, неардынарная падзея — папулярны беларускі дзіцячы часопіс раптам пераводзіць свае старонкі (не адну ці дзве) на «тарашкевіцу». Ці дакладней — на «фронтаўку».***

## Уперад — значыць, назад? Альбо Ці каштуе нешта горкая сляза хоць адной дзяўчынкі?

АДНА справа, калі на газетна-часопісны рынак прыходзіць новае, «неафіцыйнае» выданне і гэтак, «рэвалюцыйным» шляхам, уводзіць на сваіх старонках правапіс па свайму густу. Зусім іншая, калі такое робіць часопіс, які цесна звязаны з адукацыйным комплексам рэспублікі і ўжо мае дзесяцігоддзямі напрацаванае стылявое (і правапіснае) аблічча. Нарэшце — чытацкае кола, дзе пакаленне пакаленню — бацькі дзецям — перадаюць эстафетна любоў і павагу да «свайго» часопіса.

З нагоды ўтворанай бярозкаўцамі «рэформы» гутарым з адказным сакратаром рэдакцыі часопіса Максімам Клімковічам.

**— Максім, з аднаго боку, «Бярозка», безумоўна, ужо даўно з часопіса піянерска-цімураўскага ўхілу ператварылася ў даволі арыгінальны і цікавы штомесячнік для дзяцей. Прычым, выкарыстоўваючы «афіцыйны» правапіс, пры дапамозе якога, аказваецца, можна пісаць сучасныя і цікавыя творы. З другога — цяперашняя нечаканая метамарфоза.**

— Змены на старонках часопіса прыйшлі разам са зменай асноўнага складу рэдакцыі. Новыя людзі якраз і ёсць адна з галоўных прычын стварэння таго духу, які нясе чытачам «Бярозка» зараз. І ўсё ж часопіс захаваў пераемнасць традыцый. Мы нават і думкі дапусціць не можам, напрыклад, аб змене назвы. «Бярозка» — ледзь не адзіная нейтральная назва з дзіцячых часопісаў былога СССР. Да таго ж і мы самі — выхаванцы той, ранейшай «Бярозкі». Але кепскім з'яўляецца вучань, які не лічыць сябе разумнейшым за настаўніка і не спрабуе рабіць нешта інакш.

**— Перайсці на «тарашкевіцу» «явачным» парадкам — значыць, быць разумнейшым і больш прагрэсіўным за папярэднікаў?**

— Пачалося ўсё не толькі з таго, што, маўляў, мы, прадстаўнікі рэдакцыйнага калектыву, за граматыку Тарашкевіча. Пэўнае кола аўтараў, прадстаўнікі рэдкалегіі адчулі, выразна заўважылі — наспеў час для такога пераходу. Вось і ў шэрагу менскіх школ, дзе вучацца і нашы дзеці, у некаторай ступені склалася канфліктная моўная сітуацыя.

**— Нават канфліктная?**

— Так, бацькі дома вучаць «тарашкевіцы», а настаўнік беларускай мовы выпраўляе ў класе нібыта памылкі. А дзеці ж робяць іх, «памылкі», свядома, бо зрабілі крок наперад.

**— Парадаксальна, праўда? Вярнуцца назад — значыць зрабіць крок наперад. Без цвёрдай дамоўленасці з грамадскасцю...**

— Як вядома, у людзей існуе пэўны давер да друкаванага слова. Вось мы і рашылі паспрабаваць паказаць, што ёсць ужо сёння такая магчымасць — пісаць «тарашкевіцай». А для вучняў наш часопіс зараз як бы аргумент у адстойванні сваёй пазіцыі.

**— Нешта гэты аргумент нагадвае свядомае падбухторванне: не верце, дзеці, настаўніку, бо ён рэтраград і... — і маладое пакаленне «за»?**

— Не абышлося без камічных сітуацый. Не так даўно рэдакцыя атрымала ліст ад дзяўчынкі з вясковай школы. Малая напісала, што заўжды чытае часопіс з апошняй старонкі.

**— З больш займальнага.**

— Дык вось, пачала праглядаць «Бярозку» на «тарашкевіцы» і вельмі ўстрывожылася за свой стан: ці не звар'яцела часам, бо ўсюды сустракала ў тэксце нешта нязвычнае — мноства мяккіх знакаў, іншыя, чымся было, канчаткі слоў, замест «і» стаіць «ы» і гэтак далей. Пайшла дзяўчынка назаўтра ў школу, а там якраз трэба пісаць на роднай мове сачыненне. А ў галаве, прызнаецца, пасля ўчарашняга чытання ўсё перабыталася. А як вынік — двойка за граматычныя памылкі. І, вядома, слёзы. Канешне, выдатніца — і раптам двойка...

**— Слёзы, значыць. У Дастаеўскага ёсць выказванне, якое стала крылатым: ніякі прагрэс не варты нават адной горкай слязы дзіцяці. А калі суаднесці яго са згаданай сітуацыяй: эксперымент «Бярозкі» варты дзіцячых слёз? А мо ўсё ж удасканальваць правапіс ці вяртацца да любага некаму мінулага не гэтак па-бальшавіцку? Няўжо трэба абавязкова ствараць канфрантацыю, адкідваць убок вопыт настаўнікаў-практыкаў ды навукоўцаў-спецыялістаў у галіне правапісу?**

— Па-першае, хачу заўважыць: у самым пачатку таго лістападаўскага нумара «Бярозкі» мы змясцілі «Дзесяць памятак беларускага правапісу». Асноўныя правілы закладзены якраз у іх. Па-другое, давайце не будзем ідэалізаваць нашых навукоўцаў. Пакуль яны збяруцца да сур'ёзнай дыскусіі, грамадства ўжо само паспее да рэформы. Ды і пагадзіцеся, граматыка ўсё ж не павінна вызначацца пастановамі ўрада. Граматыка ёсць не што іншае, як грамадская дамоўленасць. Як мараль.

**— Значыць, прыкмета грамадскай дамоўленасці, як вы кажаце, вось гэтак «рэвалюцыйна» кожнаму выданню рашуча ўводзіць той правапіс, які рэдакцыя з рэдкалегіяй палічаць на дадзены момант найбольш прагрэсіўным? Вы — «фронтаўку», а нехта яшчэ — і лацінку, напрыклад.**

— Я асабіста ўпэўнены, што рэформа адбудзецца. Угледзьцеся ў існуючыя нормы. Мы пішам «нонсенс», хаця ў тым жа слоўніку маем напісанне нашага слова «сэнс». Дык ці не губляем па дарозе ад нонсенса да кансенсуса нешта роднае, беларускае? Вось і давайце ад парадоксаў і здзіўленняў пройдзем дарогай паразумення, знойдзем наш нацыянальны граматычны «кансенсус», толькі ўжо цераз літару «э».

**— Прычым вы настойваеце, каб гэтае «э» ўсё ж належала вам. Ну, а як вы абыходзіцеся з дзіцячай поштай? Няўжо хлопчыкі і дзяўчынкі пішуць у «Бярозку» згодна правілам Тарашкевіча?**

— Ёсць і тыя, хто піша «тарашкевіцай». Праўда, яны пісалі так і раней, да нашай бярозкаўскай «рэформы». Прызнаюся, пошта наша не надта змянілася ў гэтым плане. Хіба што атрымалі шмат віншаванняў.

**— Гэта колькі: сотню, тысячу?**

— Заўважце такую дэталь. Літаральна палова лістоў, дасланых у «Бярозку», не вельмі блізкая і да «саўнаркамаўскай» граматыкі.

**— Вядома. Пішуць жа вучні.**

— Тут іншае. У школе ж многія вучні, якія атрымліваюць выдатныя адзнакі, нават на ўроках роднай мовы і літаратуры адказваюць настаўніку па-расійску.

*(Заканчэнне на с. 4).*

*Уражанні*

# І сорам і боль наш

Чалавек горш сабакі?.. Не падумайце, што я лаю кагось, абражваю немаведама за што. Не, я проста хачу нарэшце зразумець тое, што ўжо даўно ніяк не месціцца ў галаве. Падумайце самі: сабака ніколі не гаўкае на чалавека, які яго корміць. Не толькі сабака — нават воўк або леў захоўваюць на ўсё жыццё ўдзячнасць да таго, хто дапамог у бядзе, хто карміў ці даглядаў. А чалавек, істота разумная, часта парушае гэты, здавалася б, агульны для ўсіх зямных стварэнняў, закон. Адно цешыць — такіх людзей няшмат. Да іх я адношу некаторых «партфельшчыкаў», а таксама пісакаў і агітатараў, што прадаліся за іудавы срэбранікі каманднай алігархіі. Гэтыя прадажныя падпявалы, эмісары камісараў забыліся ці проста не лічаць патрэбным шанаваць таго, хто іх корміць, апранае і абувае, хто збудаваў для іх прасторныя кватэры, дачы і курорты. Гэтыя, з дазволу сказаць, «людзі» бессаромна абліваюць гразёю народ, яго культуру і звычаі, яго слаўную мінуўшчыну. Яны, не вагаючыся, фальсіфікуюць факты, чапляюць абразлівыя ярлыкі на нашых нацыянальных дзеячаў і патрыётаў, каб адно дагадзіць «інтэрнацыянальным» алігархам. Ужо і самі тыя алігархі сталі гісторыяй, а вернасць ім тойсёй захоўвае. Ды дзе! Многія ангельцы, французы, немцы, шведы і іншыя замежныя госці Беларусі дзівяцца: няўжо ваш урад не ведае мовы свайго народа? Ды адкуль ён такі? Ва ўсіх вашых гарадах пазакрываны родныя школы?!. Няўжо толькі за абарону роднага вас называюць «нацыяналістамі» і «ворагамі народа»?.. Сёння, у канцы дваццатага веку? Не можа такога быць! Беларуская Акадэмія навук, беларускія універсітэты і інстытуты не карыстаюцца нацыянальнай мовай?! Усё гэта выклікае сорам і боль у нашай душы. Боль і пратэст супраць тых, хто да гэтага часу служыць ценям старых гаспадароў, ловячы хоць якую нагоду выліць гразь на беларуса-працаўніка, які запатрабаваў роднай школы, на беларускага паэта, які ніяк не жадае прадавацца прайдзісветам, на вялікіх і ахвярных патрыётаў нашай зямлі — Каліноўскага, Іваноўскага, Аляхновіча і многіх іншых.

Іудавы срэбранікі шпаркім струменем плывуць ў перадвыбарных кампаніях, у часе нацыянальных свят ды іншых экстравыпадках. Людзі гэта знаюць і бачаць. Проста дзіву даешся, як можа народ цярпець такі нахабны і хамскі здзек, такое аплёўванне і прыніжэнне. Паспрабавалі б у Варшаве або ў Парыжы, Лондане, Празе аплёўваць ды прыніжаць нацыянальную мову,— там самі людзі, не чакаючы паліцэйскага, хутка паставілі б на месца такога нахабніка ці дурня. А ў нас адвернуцца ды маўчаць...

Апошнімі часамі ўжо не ўхваляюць «советский образ жизни». Цікава, чаму? Адзавіцеся, прадажныя пісакі. Ну хоць раз без іудавых срэбранікаў вытлумачце народу гэтую з'яву. Няўжо ж у вас поўнасцю вымерла сумленне? Бо я, напрыклад, магу памыліцца, калі скажу, што «советский образ жизни» — гэта паўсюдная галеча (акрамя камандных вяршынь), паўсюдная пустая балбатня, актыўнае спіхванне народа ў яму. Бачыце, мала Курапатаў і шматтысячных лагераў, мала Чарнобыляў, хімічнай атруты. Трэба давесці народ да поўнага вымірання. Вось тады прайдзісветы на голай зямлі будуць панаваць без перашкод.

Прашу прабачэння ў чытача: я так і не вырашыў для сябе пытання — сабака лепшы за двуногага звера ці не лепшы?

Андрэй ЧЭМЕР.

*Юбілеі*

# Алесю ГАРУНУ — 105!

11 сакавіка споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння Алеся Гаруна (Прушынскага Аляксандра Уладзіміравіча), беларускага паэта (1887—1920).

Нарадзіўся Алесь Гарун у Менску ў сям'і рамесніка. У 1902 годзе скончыў рамесніцкае вучылішча, працаваў у сталярных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Менску. У 1904 годзе стаў членам арганізацыі эсэраў-максімалістаў і вёў актыўную агітацыю сярод менскай вучнёўскай і рабочай моладзі. 4 сакавіка 1907 года ноччу Алеся Гаруна арыштавалі ў падпольнай друкарні на вуліцы Шырокай, дзе друкавалася лістоўка «Ко всем трудящимся», накіраваная супраць царскага самадзяржаўя. Паэта саслалі на 10 гадоў на катаргу ў Іркуцкую губерню, але Сібір не зламала яго волі ні паднявольным становішчам, бяспраўем, ні нечалавечымі ўмовамі жыцця, ні сухотамі. У верасні 1917 года Алесь Гарун вярнуўся ў Менск і стаў рэдагаваць газету «Беларускі шлях».

Друкавацца Алесь Гарун пачаў у 1908 годзе. Выступаў і пад псеўданімамі І. Жывіца, А. Сумны. Асноўныя матывы яго лірыкі — служэнне Айчыне, змаганне за волю. Вялікі ўплыў на творчасць паэта зрабіў фальклор. У 1918 годзе ў Менску накладам пяць тысяч паасобнікаў Алесь Гарун выдаў кнігу вершаў «Матчын дар». Суровы жыццёвы лёс прывёў паэта да заўчаснай смерці ад сухотаў 20 ліпеня 1920 года.

У 1988 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла факсімільнае выданне кнігі Алеся Гаруна «Матчын дар», а ў 1991 годзе — кніга «Сэрцам пачуты звон», у якой сабрана ўся знойдзеная на гэты час творчая спадчына паэта.

Алесь ГАРУН

Мілая, родная старонка-маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю,
Бедныя ніўкі твае, сенажаці
І нешчаслівую долю тваю.

Горам, матуля, цяпер ты замучана,
Стогнам спавіта ў сець з ланцугоў,
Рукі і ногі да слупа прыкручаны,
Ціха наругу ты зносіш, без слоў.

Толькі ж уцешся, матуля каханая!
Слуп твой патроху пачаў падгніваць,
Прыйдзе к нам воля святая, чаканая,
Сець з ланцугоў як пачнём разрываць.

**ЖЫЦЦЕ**

Жыве спакойна вол пад тым ярмом сваім,
Намуляў карк. Мазолі, скрозь мазолі!
Падкінуць сена жмут — яму й таго даволі.
І лёс мізэрны свой не назаве благім.

Цярпліва зносіць ён нявыгады жыцця:
Няхай яго часамі злаюць ліха,
Хай свішча страшна біч,— пакорліва і ціха
Ідзе разораю. Кіруе ім дзіця.

Жыві ж спакойна, вол, хадзі ў сваім ярме,
Цягай плугі і лій свой пот на пана,
Хаця не ведаеш, якая рэч пашана.
Нашто яна табе? Сляпому добра ў цьме,
Лягчэй ісці яму дарогаю жабрачай...

А ты — жывёлаў цар? Ці ж ты жывеш іначай?!

* * *

З. Б-ку

Хрыстос нарадзіўся! Хрыстос нарадзіўся!
Спяваюць у небе анелі:
Збавіцель для свету на свеце з'явіўся,
Збавіцель, якога не мелі!

«Хрыстос нарадзіўся!» Каб гэтая праўда
З'ісцілася, браце, сягоння...
Каб ўстала на свеце вялікая Праўда,
Што крыўду у цемры прагоне.

«Хрыстос нарадзіўся!» Ці ж мала мы чулі
Такую з нябёс абяцанку?
А вочы свае ледзь ад сну разамкнулі,—
Няма і не відна паранку!

«Хрыстос нарадзіўся!» А дзе ж яго знакі?
Цяпер я Тамаш і не веру.
Здаецца мне свет, як і быў, адзінакі,
А ў ім лютаванне над меру.

«Хрыстос нарадзіўся!» Не, хіба то будзе
Яго нараджэнне. Мы знаем,
Яго дачакаюцца іншыя людзі,—
Не мы дачакаем.



Ні на Арабскім Усходзе, а ў нас, бо захавалі яе беларускія татары.

Пра гэты мужны і прыгожы народ раней я ведаў толькі па публікацыях у перыядычным друку. Але вось па заданню рэдакцыі «Нашага слова» я наведаў вечар, прысвечаны аднаму з найважнейшых мусульманскіх святаў Аль-Ісра ўаль міра хадж, што ў перакладзе з арабскай мовы азначае «Начное падарожжа і ўзнясенне прарока на сёмае неба», і многае сам пачуў і пабачыў. Дадам яшчэ, што вечар гэты адбыўся ў менскім Доме літаратара. Упершыню тут прагучала не толькі арабская мова, але і словы святога намазу. Разам з членамі менскага Згуртавання беларускіх татар-мусульман маліліся іх шматлікія госці — студэнты з краін арабскага свету і Афрыкі, якія вучацца ў сталіцы Беларусі. Потым гучалі арабскія народныя і рэлігійныя песні, выступалі юнакі і дзяўчаты з Іарданіі, Алжыра, Йемена, Балгарыі і іншых краін свету.

Акрамя святочнай праграмы, была і дзелавая. Абмяркоўвалася набалелае пытанне — як паскорыць будаўніцтва мячэці ў Менску. Цяпер беларускія мусульмане маюць толькі адзін свой храм — у Іўі. Гэта пры тым, што яшчэ ў 1945 годзе на тэрыторыі рэспублікі дзейнічала чатырнаццаць мячэцяў. Ацалелі ў часе вайны з гітлераўцамі, а вось супроць «развітога» сацыялізму не ўтрымаліся.

Пра справы беларускіх татар я папрасіў больш падрабязна расказаць намесніка прэзідэнта Згуртавання Ібрагіма Барысавіча Канапацкага. Ён растлумачыў і тое, як апынуліся беларускія татары ў Доме літаратара. Дапамагло Менскае абласное аддзяленне культуры — выдзеліла тысячу рублёў на арэнду залаў.

— А ў Менску ж,— з гарыччу сказаў мой субяседнік, — была адна з лепшых мячэцяў. Разбурылі ўжо пасля вайны. Зараз на яе падмурку стаіць рэстаран «Юбілейны».

# Аль-Кітаб гучыць па-беларуску

***Чытаючы Аль-Кітаб, святое мусульманскае пісанне, можна аднавіць гучанне старажытнай беларускай мовы.***

А Згуртаванне збірае грошы на будаўніцтва мячэці. Дарэчы, на нашу бяду адгукнуліся мусульмане з усяго свету. Вось і студэнты-замежнікі ў Менску сабралі больш як пяць тысяч рублёў.

**— Дзейнасць Згуртавання распаўсюджваецца ў асноўным на Менск?**

— На ўсю Беларусь. Вось нядаўна быў у Капылі, яшчэ і цяпер сэрца шчыміць.

**— Што так?**

— Разумееце, для кожнага мусульманіна месца, дзе пахаваны продкі,— мізар, ці могільнік, калі па-беларуску,— святое месца. Згуртаванне ўзяло іх пад сваю апеку. Дык вось у Капылі становішча мізара жудаснае — частка яго заарана, а побач з тымі могілкамі, што захаваліся, пабудавалі хлеў!

Вось так, хлеў на святым месцы. Побач з беларусамі і — разам з імі жывуць татары амаль шэсць соцень гадоў, з таго часу, як Вітаўт дазволіў ім тут пасяліцца. Першыя звесткі пра гэты народ на Беларусі датуюцца 1397 годам. Татары палюбілі сваю новую Айчыну і заўсёды служылі ёй верай і праўдай, упісалі нямала слаўных старонак у гісторыю Беларусі.

— Нашы продкі,— сказаў спадар Ібрагім Канапацкі,— разам са славянамі змагаліся супраць крыжакоў, былі пад Грунвальдам. Ці вазьміце такі факт: да Першай сусветнай вайны 1914 года на 13 тысяч татар, што жылі на тэрыторыі сучасных Беларусі і Літвы, прыходзілася 18 генералаў, а палкоўнікаў ды маёраў былі сотні. А ў той час афіцэры былі гонарам нацыі, грунтоўна адукаванымі людзьмі.

Ці вось яшчэ. Зараз гучанне, фанетычныя асаблівасці старажытнай беларускай мовы можна аднавіць, дзякуючы нашым святым кнігам, бо пісаліся хоць і арабскімі літарамі, але на беларускай мове! Так вось.

Усяго праз пяць гадоў сабраты беларусаў — татары будуць адзначаць 600-годдзе свайго існавання на новай радзіме. Яны рыхтуюцца. А вось афіцыйныя ўлады ставяцца да гэтага скептычна. На запытанне кіраўнікоў Згуртавання адносна таго, каб адзначыць юбілей, упаўнаважаны па справах рэлігіі на Беларусі спадар Жылінскі адказаў грэбліва: «Правядзенне свята даволі праблематычна».

Але, мяркуем, простыя беларусы думаюць пра гэта інакш: свята нашых суайчыннікаў татар — і наша свята.

Аляксандр БЕЛАВОКІ.

# Уперад — значыць, назад? Альбо ці каштуе нешта горкая сляза хоць адной дзяўчынкі?

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 3).*

**— Я так зразумеў: над дзіцячай поштай вам даводзіцца працаваць і ў якасці перакладчыкаў. А вось матэрыялы, творы журналістаў, пісьменнікаў, вучаных на «саўнаркамаўцы»?**

— У «Бярозцы» ўжо склалася даволі вялікае кола аўтараў, хто і раней пісаў па граматыцы Тарашкевіча. Так што наадварот: іх даводзілася «перакладаць» на «саўнаркамаўку». Канешне, ёсць аўтары, якія пішуць (і няблага) звычайнай, афіцыйнай граматыкай. Але яны ніколі не пярэчаць, калі перакладаем, правім іх творы згодна «тарашкевіцы».

**— А куды падзецца? Ну, а друкары вас «разумеюць»?**

— Хаця мы трохі і пабойваліся, што ўзнікне шмат складанасцей якраз у гэтым, але атрымалася ўсё лепшым чынам. Хіба толькі карэктура першай «тарашкевічаўскай» «Бярозкі» была чорнай ад праўкі. Пасля ўсё наладзілася.

**— Максім, апошняе пытанне. А раптам са студзеня 1993 года ці раней «Бярозка» наогул уздумае перайсці на лацінскі шрыфт?**

— На вялікі жаль, у друкарні Беларускага дома друку няма наборнай касы з лацінкай.

Гутарыў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Проза*

*Гары КЕМЕЛМАН*

# 3. ВЕРАГОДНАСЦЬ ПРОЙГРЫШУ

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—9).*

У пятніцу вечарам мы з прафесарам Нікі Уэлтам, як заўсёды, гулялі ў шахматы. Гэты звычай нарадзіўся яшчэ ў першыя дні маёй працы на юрыдычным факультэце і застаўся нават пасля таго, як я памяняў кафедру выкладчыка універсітэта на кабінет акруговага пракурора. Я толькі што аб'явіў свайму партнёру мат у тры хады, такім чынам выйграўшы рашаючую партыю нашага звычайнага матча з трох гульняў.

Кусцістыя белыя бровы прафесара ўскалмаціліся на пераноссі, калі ён утаропіў свой позірк на той куток шахматнай дошкі, дзе развівалася мая атака. Потым паківаў галавой у знак прызнання свайго паражэння.

— Вы б маглі ўратавацца,— падсаладзіў я пілюлю,— каб прасунулі пешку наперад.

— Можа, і так,— адказаў Нікі, і ў яго маленькіх блакітных вочках загарэўся і згас ваяўнічы агеньчык,— але тады зацягнулася б партыя, а яна ўжо стала мне дакучаць.

Я хацеў быў запярэчыць, што іграку, які ставіць на пройгрыш, гуляць далей сапраўды нецікава, як раптам у калідоры зазвінеў званок, і я пайшоў адчыняць дзверы. Мяне амаль заўсёды перабіваюць якраз у той момант, калі надараецца шанц распляцацца з Нікі натурай.

Госцем аказаўся палкоўнік Эдвардс з армейскай разведкі, які супрацоўнічаў са мной у расследаванні крымінальнай справы аб забойстве прафесара Макнальці. Шчыра кажучы, гэта нельга было назваць супрацоўніцтвам, бо мы займаліся расследаваннем самастойна, і кожны з нас ішоў сваім шляхам, распрацоўваючы той напрамак версіі, які, на яго погляд, вёў да поспеху. Мы, праўда, дамовіліся кожную раніцу сустракацца ў маім службовым кабінеце для абмеркавання ходу расследавання, але кожны з нас, вядома, стараўся не толькі паспяхова завяршыць справу, але і зрабіць гэта першым. Раніцой таго дня мы з Эдвардсам бачыліся ўжо і дамовіліся правесці наступную нараду ў суботу, таму яго візіт нагнаў на мяне няясную трывогу.

Палкоўнік быў чалавек малады,— як мне здавалася, занадта малады, каб хапаць з неба зоркі. Невысокага росту, каржакаваты, з нейкай велічнай паходкай, што нярэдка бывае ў людзей яго целаскладу і не заўсёды сведчыць аб фанабэрыі. Магчыма, ён быў чалавек прыстойны, можа, нават добры работнік, але з самага пачатку нашага знаёмства, якое адбылося за два дні перад тым, я не меў да яго сімпатыі. Прычынай часткова было тое, што пры першай нашай сустрэчы ён патрабаваў, каб уся адказнасць за ход расследавання была цалкам перададзена яму, таму што, маўляў, прафесар Макнальці займаўся навукова-даследчай дзейнасцю па заданню арміі, і часткова дзякуючы яго ганарлівай самаўпэўненасці. Хоць ён быў напаўгалавы ніжэй за мяне, яму неяк удавалася пазіраць на мяне зверху ўніз уздоўж свайго кароткага і тоўстага носа.

— Я ўбачыў святло ў вашым кабінеце, калі ішоў міма,— растлумачыў ён свой нечаканы візіт.

Я моўчкі кіўнуў галавой.

— Падумаў, што няблага было б абмеркаваць з вамі некаторыя пытанні і выкарыстаць ваш вопыт,— працягваў ён.

То быў яго звычайны стыль, ад якога на душы ў мяне закіпела, таму што нельга было напэўна сказаць: знешняя яго пачцівасць — праява далікатнасці альбо нахабства бесцырымоннага крывадушніка. Ва ўсякім разе, я не прыняў яго словы напавер. Нічога не адказаўшы, павёў яго ў кабінет, дзе Нікі складаў у скрынку шахматныя фігуры. Калі я іх пазнаёміў, мы паселі ў крэслы.

— Ці выявілі вы што-небудзь важнае пасля нашай ранішняй сустрэчы? — спытаўся Эдвардс.

Я праглынуў на момант язык, потым спакойна адказаў:

— Мы арыштавалі Троўбрыджа. Адшукалі яго ў Бостане і прывезлі сюды.

— Хутка ж вы працуеце! — паблажліва пахваліў мяне Эдвардс.— Але, баюся, след ваш фальшывы.

У адказ я мог бы проста паціснуць плячамі, але адчуваў пад сабой цвёрдую глебу і таму сказаў:

— За некалькі гадзін да забойства прафесар Макнальці пасварыўся са сваім студэнтам. Прафесар праваліў Троўбрыджа на экзамене па фізіцы за тое, што той не напісаў у тэрмін справаздачу аб сваіх вопытах за семестр. Студэнт прыйшоў да яго, каб растлумачыць, што ён пашкодзіў звязкі на правай руцэ і таму не мог пісаць. У той дзень прафесар быў нечым дужа ўсхваляваны. Ён і раней ніколі не вызначаўся асаблівай ветлівасцю, а ў час гутаркі са студэнтам зусім паводзіў сябе рэзка. Пра гэта расказала мне яго сакратарка, што сядзела ў прыёмнай. Па яе словах, Макнальці заявіў, што Троўбрыдж, на яго думку, сімулюе, і выказаў здагадку, што ён і ад арміі ўхіліўся такім жа чынам. У дужках я магу паведаміць, што праверыў паслужны спіс Троўбрыджа і нічога ганебнага там не знайшоў. Яго звольнілі з арміі пасля двух раненняў, атрыманых у баявых дзеяннях у Еўропе. Вядома, Троўбрыдж не сцярпеў абразы. Распачалася сварка, і малады чалавек, як сведчыць сакратарка, сказаў: «Вас растраляць мала».

Я зрабіў шматзначную паўзу.

— Дык вось,— гаварыў я далей,— нам вядома, што Троўбрыдж у 20.10 сеў на бостанскі цягнік. Па дарозе на вакзал ён павінен быў прайсці паўз дом Макнальці. Як сведчыць прафесар Ольбрэхт, Макнальці быў застрэлены праз аднудзве хвіліны пасля васьмі.— Я зноў крыху памаўчаў, каб надаць яшчэ большую важкасць і без таго вельмі красамоўнаму фактару часу. Потым з прытоеным трыумфам сказаў: — Па логіцы гэтых абставін падазрэнне падае на Троўбрыджа.— Я пачаў лічыць пункты па пальцах: — Па-першае, ён пасварыўся з прафесарам так, што нават пагражаў яму,— вось вам прычына; па-другое, ён служыў у арміі, ваяваў у Еўропе і таму, можна меркаваць, меў нямецкі «люгер», ваенны трафей,— вось прылада забойства; па-трэцяе, у фатальную гадзіну ён знаходзіўся паблізу ад месца забойства — вось зручная магчымасць, і, нарэшце, ён уцёк у Бостан — вось вам ускосны доказ віны.

— Але ж прафесараў не забіваюць толькі таму, што яны правальваюць студэнтаў на экзаменах! — запярэчыў Эдвардс.

— Вядома, не — пры звычайных абставінах,— пагадзіўся я.— Але ацэнка каштоўнасцей мяняецца. Троўбрыдж ваяваў на фронце і, думаю, не раз бачыў, як забіваюць людзей, таму мог не вельмі высока цаніць чалавечае жыццё. Не забывайце: правал па фізіцы азначае выключэнне з універсітэта. Між іншым, ён заяўляе, што паехаў у Бостан паглядзець, ці ёсць якая магчымасць перавесціся туды ў адзін з каледжаў. Нервовы і ўражлівы малады чалавек лёгка можа ўбіць сабе ў галаву, што ўся яго будучыня вісіць на валаску.

Эдвардс паволі паківаў галавой, быццам падараваў мне сваю згоду.

— Вы дапыталі яго? — пацікавіўся ён.

— Так. Прызнання я не дамогся — калі вы гэта маеце на ўвазе. Аднак сёе-тое вывудзіў. Ведаючы, што каля 20.05 ён павінен быў прайсці міма дома Макнальці, я сказаў яму, што яго там бачылі. Вядома, я пусціў стралу наўгад, але нельга сказаць, каб зусім без прыцэлу. Недзе каля гэтага часу прыбывае олбанскі цягнік, і звычайна з яго выходзяць два-тры пасажыры. Па дарозе ў горад яны б стрэліся з Троўбрыджам, калі той ішоў на станцыю.

Эдвардс зноў кіўнуў галавой у знак адабрэння.

— Я не прамахнуўся,— расказваў я далей.— Троўбрыдж пачырванеў і прызнаўся, што спыніўся насупраць дома Макнальці. Сказаў, што пастаяў там некалькі хвілін, разважаючы, ці не зайсці да прафесара, каб, можа, угаварыць яго перамяніць сваё рашэнне. Але раптам ён пачуў, што прыбывае цягнік з Олбані, і, ведаючы, што бостанскі адыходзіць хутка пасля гэтага, паспешліва пакрочыў на станцыю. Я трымаю яго ў якасці важнага сведкі. Пасля таго, як ён пасядзіць ноч пад замком, я зноў дапытаю яго і, магчыма, выцягну яшчэ што-небудзь.

Палкоўнік адмоўна пакруціў галавой:

— Сумняваюся, каб вы атрымалі ад яго што новае. Троўбрыдж нікога не забіваў. Макнальці сам застрэліўся. Гэта было самагубства!

Я здзіўлена ўзняў на яго вочы:

— Але ж версію самагубства мы адкінулі з самага пачатку. Вы ж самі...

— Я памыляўся,— холадна прамовіў палкоўнік, нездаволены гэтым напамінкам.

— Аднак нашы першапачатковыя пярэчанні застаюцца ў сіле,— сказаў я.— Нехта пазваніў, і Макнальці пайшоў адчыняць дзверы. Прафесар Ольбрэхт сведчыць гэта.

— Не, ён нічога такога не сведчыць. Мы думалі так. На самай жа справе Ольбрэхт сказаў толькі, што, калі яны гулялі ў шахматы, Макнальці раптам папрасіў прабачыць яго, спаслаўшыся на тое, што нехта чакае за дзвярамі. Давайце спынімся на гэтай акалічнасці, і вы ўбачыце, чаму мы дапусцілі памылку. Як сведчыць прафесар Ольбрэхт, яны з Макнальці гулялі ў шахматы. Здаецца, яны часта гэта рабілі.

— Правільна,— пацвердзіў я,— яны змагаліся ў шахматы кожны вечар у сераду, як мы з Нікаласам Уэлтам робім гэта па пятніцах. Разам вячэраюць ва універсітэцкім клубе, а потым ідуць да Макнальці гуляць.

*(Працяг будзе).*

# ШЭДЭЎРЫ СУСВЕТНАЙ ПАЭЗІІ ПА-БЕЛАРУСКУ

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

***Амар Хаям (1021 або 1022 — 1122), вялікі паэт персідскай мовы, здабыў сусветную славу сваімі «Рубаі».***

**Амар ХАЯМ**

**РУБАІ**

* * *

**Сонца вечнага рання — гэта каханне,**
**Птушка лугу світання — гэта каханне,**
**Слодыч — не толькі адчай салаўя,**
**Смерць сустрэць без вагання — гэта каханне.**

* * *

**Ці ёсць куток той, дзе знайсці спакой,**
**Ці ўсё ісці дарогаю цяжкой?**
**Хоць праз сто тысяч год бы мець надзею**
**З зямлі травою прарасці жывой.**

* * *

**У прыстанку двухдзверным даецца замала —**
**Кроў у сэрцы іростань з душою трывала.**
**Той шчаслівы, хто ў гэта жыццё не прыйшоў,**
**Той спакойны, каго маці й не нараджала.**

* * *

**Хай будзе шлях яе, як мой адчай, даўгі,**
**Украла сэрца, а сягоння без тугі**
**Прайшла і толькі позіркам сказала:**
**«Кінь у ваду дабро, глянь, ці ідуць кругі».**

* * *

**Як ведаеш адгадкі таямніц усіх,**
**Чаго бядуеш з марнаты бядот сваіх?**
**Калі ўсё вершыцца па ўладнай нейчай волі,**
**Усцешны будзь з жыцця хоць на кароткі міг.**

* * *

**Ты ведаеш, чаму так певень на світанні**
**Жалобна ў неба штохвіліны шле літанні?**
**Люстэрка рання паказала: ноч яшчэ адна**
**Пайшла з жыцця, а ты не быў пры развітанні.**

* * *

**Дзень мінуў — забудзь яго намер,**
**Дню, які не надышоў, не вер,**
**Не глядзі ні ў прошласць, ні ў наступнасць,**
**Не марнуй жыцця, жыві цяпер.**

* * *

**Знайсці б гэта месца спакою ў жыцці.**
**Ці доўга дарогай бясконцай брысці?**
**Хоць мець бы за тысячы год спадзяванне**
**Травінкаю з сэрца зямлі прарасці.**

* * *

**Нягодаў, што ў часе цякуць хуткацечна, не бойся,**
**І лёсу, які пратрывае нявечна, не бойся,**
**Аддай весялосці адзіны свой міг**
**І дня, што прайшоў, што ідзе, недарэчна не бойся.**

* * *

**Раса застыла ў ружы на далоні — гожа,**
**Твар заравокай засвітаў на ўлонні — гожа,**
**Пра зніклы дзень што б ні казаў — нягожа,**
**Вясёлы будзь, забудзь той дзень, бо сёння — гожа.**

**Пераклад з фарсі-кабулі**
**Рыгора БАРАДУЛІНА.**

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

*Часопісы*

# «Роднае слова»

**У другім нумары часопіса «Роднае слова» («Беларуская мова і літаратура ў школе») увагу чытачоў найперш прыцягнуць публікацыі ў раздзеле «Філалогія». Тут змешчаны артыкул «Адзінай мэты не зракуся...»: крыжовы шлях Ларысы Геніюш», які прапанаваў выданню Алесь Марціновіч. Часопіс пачынае друкаваць нататкі Алеся Бельскага «Да глыбіняў жыцця» — пра маладую беларускую прозу 80-х — пачатку 90-х гадоў. «Пуржыць, паўзе мяцеліца» — цікавае філалагічнае даследаванне вытокаў «зімовых» слоў зрабіла мовазнаўца Лілія Выгонная.**

**У раздзеле «Калі закончыўся ўрок» увагу аматараў школьных інсцэніровак прыцягне літаратурна-драматычная кампазіцыя «Вячоркі ў Паўлінкі», якую падрыхтавала вядомая настаўніца, паэтка са Слоніма Алена Руцкая. У гэтай інсцэніроўцы прапануецца выкарыстаць песню «Баба Ева, дзед Тамаш», словы і ноты якой змешчаны пад рубрыкай «І песню родную люблю я...»**

**«Адраджэнне роднай мовы на Міншчыне», «Міжэтнічныя працэсы на Беларусі ў люстэрку тапаніміі», «Дыялекталогія — школьны прадмет!?» — кола асноўных тэм, якія разглядаюць аўтары часопіса ў раздзеле «Школа і нацыянальнае адраджэнне».**

**Настаўнікі роднай мовы і літаратуры шмат карыснага знойдуць у раздзеле «Методыка і вопыт», дзе ідзе гаворка пра тое, як лепш правесці ўрок па тэме «Суфіксы» ці сачыненне — апісанне памяшкання, разглядаюцца стылістычныя рэсурсы марфалогіі, змешчана кансультацыя наконт правільнага скланення жаночых прозвішчаў, што заканчваюцца на *-ка*. Добрай падтрымкай для настаўніка літаратуры пры падрыхтоўцы да ўрокаў па творчасці Максіма Гарэцкага стане распрацоўка «...А там гарэла ціхае сялянскае святло...» Прыдадуцца да справы і нататкі з вопыту работы настаўніцы з Полацка Валянціны Сухадолавай, артыкул пра выкарыстанне фонахрэстаматыі пры вывучэнні драматычных твораў.**

**Часопіс змяшчае артыкул, прысвечаны 60-годдзю штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», працягвае друкаваць «Каляндар юбілейных дат і памятных дзён на 1992 год».**

**Іван ЖДАНОВІЧ,**
**супрацоўнік рэдакцыі часопіса.**



Андрэй і Таня Макагоны жывуць у вёсцы Рэкта на Жлобіншчыне, вучацца ў Лукскай сярэдняй школе.

Ёсць у Андрэя (зараз ён васьмікласнік) мара — стаць пчаляром, адрадзіць старадаўні народны занятак.

Фота М. ХАМЦА.

## ДА ЎВАГІ ПАЭТАЎ

**Усім, хто спрабуе свае сілы ў творчасці, паведамляю, што ствараецца згуртаванне маладых (беларускамоўных) паэтаў «Жывыя». Кантактныя тэлефоны ў Дзяржынску:**

**5-41-71 (ад 9 да 18 гадзін)**

**3-32-48 (пасля 20 гадзін).**

**Анатоль ЛАЗАР.**

## *НА РАХУНАК ТБМ*

**Другі год супрацоўнікі выдавецтва «Юнацтва» з'яўляюцца калектыўным сябрам Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Сёлета яны перадалі на скарбовы рахунак ТБМ 135 рублёў сяброўскіх складак.**

С. ПАНІЗЬНІК,
старшыня першаснай суполкі.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ

**Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і за мяжой.**

**Наш цэнтральны рахунак 700510, гардырэкцыя Менскбізнесбанка г. Менска, код 764.**

**Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку.**

**Менскі грамадска-асветніцкі клуб «Спадчына» звяртаецца да творчай інтэлігенцыі з заклікам прыняць удзел у распрацоўцы тэмы «Слуцкага паўстання» і ўзвядзенні помніка яго героям. Лепшаму праекту помніка клуб «Спадчына» гарантуе фінансаванне.**

**За даведкамі звяртацца па тэлефоне: 38-83-67 ці 51-22-65 да сп. Анатоля Белага.**

*І смех і грэх*

## ДЫЯЛОГІ НА ВЯСКОВАЙ ЛАЎЦЫ

**— Хай бы хоць нас, пенсіянераў, як-та паддзяржалі. Без рук, без ног засталіся на ферме праклятай. Ні выхадных, ні прахадных не зналі...**

**— Адкуль яны возьмуць, Еўдакея? Разбазарылі ўсё. А з парожняга жбанка не нальеш.**

* * *

**— Хоцькі-няхоцькі, а на нет Саюз разваліўся! Ні ладу ні складу! Разбегліся ва ўсе бакі, як мышы стог саломы з'еўшы. І што-та будзе? Адной жа рукой і вузла не завяжаш...**

**— Ад дабра дабра не шукаюць, Наста. Хоць спіна гола, ды свая воля.**

* * *

**— Як паглядзіш, Марыля, з усяго свету людцы помач шлюць, а галеча як была, так і ёсць.**

**— І будзе, Верачка! Дзіравы мяшок ніколі не напоўніш!..**

* * *

**— От як трохі цяплейшы, ёсць за што рукі зацяць, то й будуецца чалавек.**

— Каб пабудавацца, трэба добра папяцца. А цяпер жа ні цаглінкі, ні жардзінкі не ўкупіш. Паўцагелкаў нейкіх навыломваў на чужым двышчы, але ж гэтым не ўмыешся: на паўгрубкі не хопіць.

* * *

— Во дажыліся! Першы раз Новы год без хлеба страчала!

— І мы са старым: дзень без хлеба, а дзень так.

— А мне пашэнціла: дзесяць кіль пупкоў курыных да свята купіла. Дык ад пуза наеліся! З цыбулькай, крапікам — смаката! Язык праглынуць можна.

— А людцы мі-лы-я-а-а!.. А хто ж тых курэй паеў — на дзесяць кіль пупкоў?! Гэта ж ферма цэлая...

* * *

— Гэта ж трэба было мне Баўтручыху зачапіць! Без кіслаты вочы выела! А каб вы, бабачкі, чулі... Усю радню з таго свету падняла, з гразёю змяшала. І за што?! Ну сказала я: «Унучку адну не кідай. Такое дзвіжэнне, а хата, лічы, на магістралі стаіць...»

— Благога чалавека, Варушка, лепш не чапаць. Як вугалле — або апячэ, або абмарае.

* * *

— Петрачкаў Андрэй так пасынка свайго неўзлюбіў — праходу дзіцяці не дае! Бедны хлопец, як па лязу брытвы ходзіць. І пажаліцца няма каму: маці сама баіцца аказаліца.

— Разумны чалавек некалі падмеціў: у айчыма — чэрці пад вачыма.

Учула Любоў ЛАМЕКА.

*Аляксей* ***НЕНАДАВЕЦ***

### *ПРЫВЯРЭДЛІВЫЯ ЧЫТАЧЫ*

*Нечага не разумеем,*
*Нечага не заўважаем:*
*Пісаныя для бяссмерця*
*Вершы ніхто не чытае.*

«Вечнасць на нас пазірае»
А. БАДАК.

**Што гэта робіцца ў свеце?**
**Адкуль ты, бяда такая?**
**Пісаныя для бяссмерця**
**Вершы ніхто не чытае.**
**Ой, сцеражыцеся, людзі,**
**Вечнасць на вас пазірае,**
**Моўчкі, аскаліўшы зубы,**
**Часу свайго чакае...**
**У творах маіх жывучых**
**Выйсце сабе шукайце,**
**А на тое, як іншыя вучаць,**
**Увагі зусім не звяртайце.**

.................................................

**...Толькі чытач няўдзячны,**
**Відаць, па сваёй ахвоце**
**З большым запалам чытае**
**Словы старыя на плоце.**

## Народная лякарня

*(Працяг. Пачатак у № 9).*

Любілі і цанілі мёд мусульмане. У іх свяшчэннай кнізе «Каран» згадваецца аб лекавых уласцівасцях мёду: «Ешце мёд і вы выздаравееце». Славуты прадстаўнік арабскай медыцыны, таджыкскі ўрач і прыродадаследчык Авіцэна (952 г.) рэкамендаваў мёд як лякарства, якое падоўжвае жыццё людзей: «Мёд бадзёрыць, садзейнічае страваванню, аблягчае адхаркванне, абуджае апетыт, захоўвае маладосць, аднаўляе памяць». Для лячэння ран ён рэкамендаваў прыкладваць мёд, замешаны з пшанічнай мукой, мяняючы павязку праз кожныя 12 гадзін.

Вялікія грэкі і рымляне вельмі цікавіліся тайнай утварэння мёду, імкнуліся растлумачыць яго паходжанне, вызначыць гаючыя ўласцівасці, даць рэкамендацыі па мёдалячэнню. Аднак, згодна са сваім міфалагічным светапоглядам, яны медыцынскую праблему звязвалі з астралагічнымі ідэямі, што добра відаць хаця б з наступнага выказвання Плінія: «Пасля нараджэння любой зоркі, галоўным чынам, самай высакароднай, або вясёлкі, калі не будзе буры і раса пастунова нагрэецца сонечнымі прамянямі,— гэта не мёд, а медыкамент з благаславёнымі ўласцівасцямі для лячэння вачэй, ран і унутраных органаў... А калі ён (мёд) захоўваецца да з'яўлення зоркі Сірыус і калі ў гэты ж самы дзень, як часта здараецца, з'яўляюцца зоркі Венера, Юпітэр або Меркурый, няма лепшага сродка для таго, каб вызваліць людзей ад хваробы і смерці, як гэты цудоўны нектар».

Арыстоцель сцвярджаў, што мёд выпрацоўваецца адначаса з узнікненнем на небе Плеяд, і пераказаў народнае павер'е, якое дайшло да нашых дзён, а менавіта: мёд — гэта слёзы або пот зорак, якія дажджом выпадаюць на зямлю, каб зрабіць жыццё людзей салодкім.

Сапраўдным Евангеллем для медыкаў і фармацэўтаў эпох сярэднявечча і Адраджэння стала праца грэчаскага ўрача і вучонага Дыяскарыда, які вывучаў прадукты пчалярства з пункту погляду медыцыны. Ён пісаў, што мёд ачышчае глыбокія гнойныя раны, праясняе зрок, лечыць горла, заспакойвае боль у вушах, нейтралізуе ўкусы гадзюк і шалёных сабак, грыбны яд.

Другі вялікі медык і вучоны Гален развіў ідэі Дыяскарыда. Ён таксама лічыў мёд медыкаментам, і не простым, а істотнай часткай комплексных прэпаратаў. Медыцына мёдалячэння ў сярэднявеччы цалкам грунтуецца на працах Дыяскарыда і Галена.

Найбольш распаўсюджаным лячэбнікам сярэднявечча (XIII ст.) была «Скарбніца бедных». Мёд у ім разглядаецца як лекавы сродак ад усіх вядомых на той час хвароб.

## Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі:** 5. Утверждённые. 7. Печаль. 8. Мечта. 11. Допрос. 12. Фитиль. 14. Небытие. 16. Ежевика. 18. Шалаш (из веток, соломы). 20. Скатерть. 22. Вкус. 23. Охват. 26. Горе. 27. Нефтедобыча.

**Па вертыкалі:** 1. Убежал. 2. Лекарственный. 3. Употребление. 4. Юноша. 5. Кувшин. 6. Иго. 7. Дюжина. 9. Охрана. 10. Взрывчатый. 13. Обиход. 15. Торс. 16. Подберёзовик. 17. Согласие. 19. Слишком. 21. Вслух. 22. Кожаный лоскут. 24. Шкаф. 25. Слух.

**Падрыхтавала Людміла ШНІП.**

### АДКАЗ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 8

**Па гарызанталі:** 7. Заключны. 8. Смеццевы. 9. Асецьь. 10. Цёпла. 11. Аселы. 14. Друкарскі. 17. Вага. 18. Слых. 19. Замежжа. 21. Узвышша. 25. Віск. 26. Рунь. 29. Звеку. 30. Урачы. 31. Выспа. 32. Анёльскі. 33. Няўлоўны.

**Па вертыкалі:** 1. Падстава. 2. Млецьь. 3. Дылёўка. 4. Цесляры. 5. Уціск. 6. Хвалісты. 12. Драпежнік. 13. Укладзены. 15. Балея. 16. Іспыт. 20. Адліваны. 22. Шалупіна. 23. Шкурнік. 24. Уручаны. 27. Скула. 29. Выток.




Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7588 паасобнікаў. Зак. 1168. Індэкс 63865.